# У ГОНАР ЮБІЛЕЮ ПАЎСТАНЬНЯ 1794 ГОДА

(Працяг. Пачатак на стар. 1).

другія — не. Помнік Т. Касьцюшку ў Лодзі быў узьведзены ў 1930 г. (скульптар М. Любеньскі), у 1939 г. ён быў разбураны гітлераўцамі. Пасьля вайны было прынятае рашэньне пра яго ўзнаўленьне і толькі ў 1960 г. пры актыўным удзеле старога скульптара помнік быў узноўлены. На канвэрце паказаная плошча Свабоды ў Лодзі і помнік на ёй. Пад малюнкам — подпіс (частка накладу на польскай, частка на беларускай мове): «Тадэвуш Касьцюшка нар. ў 1746 г. на зямлі беларускай. Начальнік Народных узброеных сілаў у паўстаньні 1794 г. Народны герой Польшчы і ЗША. Помнік на плошчы Свабоды ў Лодзі». Над малюнкамі ўсіх канвэртаў надпіс: «200 гадавіна паўстаньня Касьцюшкі. 1794—1994». На наступным канвэрце — партрэт Касьцюшкі па вядомай карціне А. Аляшчынскага (1829). Подпіс паведамляе: «Тадэвуш Касьцюшка, нар. 04.02.1746 г. ў Сяхновічах (Беларусь), пам. 05.10. 1817 г. ў Салюры (Швейцарыя). Генерал, галоўнакамандуючы ўзброеных сілаў паўстаньня 1794 г». Гэты канвэрт яшчэ цікавы і тым, што на заднім клапане яго надрукаванае чатырохрадкоўе:

**Наш Касьцюшка слаўны быў:**
**Ён маскалёў добра біў.**
**Як Касьцюшкі ні стала —**
**Уся Польшча прапала.**

Малюнак на трэцім канвэрце паказвае Т. Касьцюшку ў Кракаве на Вавелі ў момант прысваеньня афіцэрскіх званьняў тром салдатам батальёна кракаўскіх грэнадзёраў Б. Главацкаму, С. Свістаскаму, Я. Лакомскаму 8 красавіка 1794 г. (мал. 3).

Варта сказаць некалькі добрых слоў аб Праўленьні Лодзінскага адзьдзяленьня ПСФ. Вось ужо трэці раз яны выпускаюць канвэрты беларускай тэматыкі. Акрамя вышэйназваных, быў яшчэ адзін выпуск. Гэта канвэрт з выяваю «Пагоні» і два канвэрты, прысьвечаныя Аршанскай бітве. На адным зь іх намаляваны воін са сьцягам у руках, на другім — той жа воін, але ў яго ног надпіс у рамцы «Orsza — Ворша. 1514—1994». Паміж філятэлістамі Менска і Лодзі даўно ўстанавіліся добрыя адносіны. Праўда, у гэты цяжкі для беларускіх філатэлістаў перыяд гэтыя адносіны сталі як бы аднабаковымі. Калегі з Польшчы ўдзяляюць нам больш увагі, чым мы ім.

Але вернемся да тэмы паўстаньня 1794 г. У красавіку 1994 г. пошта Літоўскай рэспублікі выпусьціла спэцыяльны канвэрт з выявай шаблі й тэкстам «1794. Юбілей паўстаньня Касьцюшкі». Гэты ж тэкст і выява шаблі, увітай дубовым лісьцем, дадзены на спэцыяльным штэмпелі, якім гасілася карэспандэнцыя на Віленскім паштамце 24 красавіка 1994 года (мал. 4).

У сакавіку 1994 года ў Чыкага (ЗША) прайшла філятэлістычная выстава, прысьвечаная 200-годзьдзю паўстаньня 1794 г. Сярод іншых спецыяльных штэмпеляў гэтай выставы выкарыстоўваўся штэмпель, у малюнку якога быў партрэт нашага славутага земляка, юбілейны тэкст на ангельскай мове. Пад партрэтам надпіс «Генерал Касьцюшка».

Тыя філятэлісты нашай рэспублікі, каго цікавіць тэма «Беларусіка», паклалі ў свае калекцыі новы і цікавы паштовы матэрыял пра падзеі 1794 года на беларускай зямлі.

**Леў КОЛАСАЎ,**
**г. Менск.**




# ПЕРШЫ НА БЕЛАРУСІ

У шмат якіх краінах у час выбараў існуе традыцыя выпуску разнастайных значкоў у падтрымку тых ці іншых кандыдатаў. Найбольшае распаўсюджаньне гэта атрымала ў Злучаных Штатах Амэрыкі. Амэрыканцы беларускага паходжаньня, якіх па розных зьвестках шэрагу дасьледчыкаў беларускай эміграцыі налічваецца ад 1 да 2 мільёнаў, заўжды актыўна ўдзельнічаюць у выбарах прэзыдэнта ЗША. На пытанне «За каго галасуюць амэрыканскія беларусы?» у сваёй кнізе «Беларусы ў ЗША» адказвае вядомы беларускі дасьледчык Вітаўт Кіпель. Старыя эмігранты й большасьць іхніх нашчадкаў галасуюць найчасьцей за дэмакратаў, тым часам як эмігранты паваеннае хвалі часьцей галасуюць за рэспубліканцаў. Любы кандыдат, калі хацеў заручыцца падтрымкай беларусаў, мусіў займаць моцную антыкамуністычную пазыцыю. Апошнім часам амэрыканскія беларусы падтрымліваюць тых кандыдатаў, якія абяцаюць спрыяць у сваёй заканадаўчай дзейнасьці Рэспубліцы Беларусь. Важным сродкам уплыву на выбаршчыкаў быў беларускі друк: вялікімі накладамі друкаваліся праграмы партыяў, індывідуальных кандадатаў, плякаты. Да кожных выбараў прэзыдэнта беларускія арганізацыі вырабляюць значкі, якімі выказываюць сваё стаўленьне да той ці іншай кандыдатуры ў прэзыдэнты. У маёй калекцыі ёсьць 5 аналагічных значкоў. Звычайна на значку вялікага дыяметру на каляровым фоне зьмяшчаецца адпаведны надпіс, прыкладам, «Амерыканскія беларусы галасуюць за Рэйгана!», «Беларусы за Рэйгана й Буша!», «Беларусы за Форда!».

У 1994 годзе падчас выбараў першага беларускага прэзыдэнта на Беларусі зьявіўся першы такога функцыянальнага прызначэньня значок. Яго выдалі прыхільнікі кандыдата ў прэзыдэнты ад Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Зянона Пазьняка. Значок металічны, дыяметрам 37 мм, зялёнага колеру з надпісам «Мой прэзыдэнт — Зянон Пазьняк!». Асобных людзей з гэтым значком можна сустрэць у Менску нават у студзені 1995 года. Няма сумніву, што традыцыя выпуску падобных значкоў на Беларусі працягнецца.

**Вітаўт КУЗЬНЯЦОЎ,**
**г. Менск.**




# ЦІ БУДЗЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ВАЛЮТА?

Старшыня праўленьня Нацыянальнага банку Станіслаў Багданкевіч пацьвердзіў чуткі пра тое, што ў падвалах банку захоўваюцца надрукаваныя грошы, так званы новы беларускі рубель. Ен ня мае нічога агульнага зь цяперашнімі беларускімі разьліковымі білетамі, можа, толькі тое, што будзе мець хаджэньне на тэрыторыі рэспублікі. Праўда, гэта здарыцца не раней, чым праз год. Новы рубель зьявіцца ў кашальках грамадзянаў толькі пасьля таго, як эканоміка краіны паправіць сваё здароўе й выйдзе на ўзровень інфляцыі 7 працэнтаў у месяц.

**Паводле**
**«Народнай газеты»**

# ТЭМАТЫЧНЫ ПЛАН ВЫДАНЬНЯ МАРАК НА 1995 ГОД

**I. Помнікі архітэктуры Беларусі.**

1.1. Касьцёл Іаана Хрысьціцеля ў в. Камаі Віцебскай вобл.
1.2. Касьцёл кармелітаў у Мсціслаўлі.

**II. Геральдыка.**

2.1. Герб Берасьця.
2.2. Герб Гомеля.
2.3. Герб Магілёва.

**III. Славутыя людзі Беларусі.**

3.1. Л. Сапега.
3.2. С. Полацкі.
3.3. М. К. Агінскі.

**VI. Гульні XXVI Алімпіяды ў Атланьце'96.**

4.1. Гімнастыка.
4.2. Цяжкая атлетыка.
4.3. Грэбля на байдарках.
4.4. Грэбля на каноэ.
4.5. Гандбол.
4.6. Баскетбол.

**V. Ахова навакольнага асяродзьдзя.**

5.1. Зубр.
5.2. Журавель шэры.
5.3. Рачны бабёр.

**VI. Беларускае народнае адзеньне.**

6.1. Беларускі народны строй. Калінкавіцкі строй.
6.2. Беларускі народны строй. Пухавіцкі строй.
6.3. Беларускі народны строй. Давідгарадоцка-тураўскі строй.

**VII. Храналёгія.**

7.1. 50-годзьдзе перамогі ў Вялікій Айчыннай вайне.
7.2. 50-годзьдзе Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў (24.10).
7.3. Дзень радыё і ўсіх галінаў сувязі.
7.4. Дзень беларускай пісьменнасьці і друку (05.06).
7.5. 525 гадоў з дня нараджэньня выдатнага дзеяча славянскай культуры М. Гусоўскага (1470—1533).
7.6. 150 гадоў з дня нараджэньня Чэрскага, вядомага геолага, географа, дасьледчыка Сібіры, ураджэнца Верхнядзьвінскага раёна Віцебскай вобл. (03.05.).
7.7. Памятны знак К. Сіманаву на Буйніцкім полі.

**VIII. Паштовыя блокі**

1. Беларускае народнае адзеньне.
2. XXVI Алімпійскія гульні ў Атланьце.
3. Ахова навакольнага асяродзьдзя.




# *САПРАЎДНЫ ПАДАРУНАК*

Адмысловае гашэньне паштовых марак заўсёды сьвята для кожнага філятэліста. Сапраўдны падарунак атрымалі калекцыянеры Беларусі ад Міністэрства сувязі і інфарматыкі — калі на Галоўпаштамце Менска адбылася такая хвалюючая падзея. Гэтым разам яна была прысьвечана 200-годзьдзю вызвольнага паўстаньня 1794 года. На чатырох марках зьмешчаны партрэты Тадэвуша Касьцюшкі і яго баявых паплечнікаў Міхала Клеафаса Агінскага, ЯЯкубжэцкага.

Аўтарам паштовай сэрыі зьяўляецца мастак Мікола Рыжы, канвэрта — Мікола Купава.

**Б. К.**










# ДА ГІСТОРЫІ СЭРЫІ МАРАК «БЕЛАРУСЬ. ПОЧТА»

Сёньня назапашана ўжо нямала зьвестак пра ўсё яшчэ таямнічую гісторыю выданьня марак серыі «Беларусь. Почта». Прааналізаваныя найбуйнейшыя і найаўтарытэтнейшыя філятэлістычныя каталёгі, знойдзеныя новыя архіўныя матар'ялы, ліставаньне дзеячоў нацыянальнага руху. Усё гэта, а таксама веданьне асноўных калізіяў дзейнасьці беларускіх нацыянальных арганізацый плюс дасьледчыцкая інтуіцыя дазваляюць нам, падсумаваўшы ўсе факты і здагадкі, сфармуляваць больш шырока і дэталёва сваю версію паходжаньня і выданьня трох марак «Беларусь. Почта», версію, якая ўжо прыводзілася ў скароце на старонках «Беларускага калекцыянера» (гл. № 1/8 студзень 1993 г. арт. «Таямніцаў усё менш...»).

Адразу зазначым, што беларускі пэрыядычны друк 1918—1921 г.г. зусім не дае адказаў на пытаньні пра маркі. Крыху больш шчодрыя на інфармацыю філятэлістычныя каталёгі. Каталёг марак грамадзянскай вайны пад рэдакцыяй Ф. Чучына 1927 г. фіксуе «фантастычна-спэкулятыўную» сэрыю «Беларусь. Почта» ў зубцовым і беззубцовым варыянтах і называе Коўна местам выданьня. Да Чучына вэрсію выданьня азначанай сэрыі ў Коўна ў 1921 г. ўрадам БНР выказаў В. Папоў («Каталог и описание почтовых марок старой России, Республик Федерации на ее территории, различных выпусков гражданской войны, Польши, Латвии, Литвы и Эстонии», Кіеў, 1922—1923 г.г.). Нарэшце філятэліст з Гамбурга Хэльмут Вайкард прывёў вельмі цікавае выказваньне нямецкага часопіса паштовых марак за 1921 г. (на жаль аўтар не падаў назву часопіса), якое тычылася трох марак беларускай пошты: «Тры маркі беларускай пошты былі ў 1921 г. аб'яўлены ў Коўна (Каўнасе) па-за законам. «Тагачасны нямецкі часопіс паштовых марак заве гэтыя маркі другім выпускам урада генерала Балаховіча. У наступным нумары гэтага часопіса паведамляецца, што «ў цяперашні час маркі ў Расеі не ўжываюцца, так як урад вымушаны быў уцячы ў Коўна». Ілюстраваны часопіс паштовых марак заве тры маркі беларускай пошты «жульніцкім выпускам» кансорцыума, які сядзіць у Коўна ў якасьці беларускага ўрада. Такім чынам, сэрыя з трох марак беларускай пошты ня мела добрых водгукаў у друку Нямеччыны. Гэтыя тры маркі сёньня вельмі рэдкія. («Беларускі калекцыянер» № 1—2, 1992 г.). Гэта, бадай што, уся інфармацыя пра сэрыю марак «Беларусь. Почта», якую мы можам прывесьці з філятэлістычных выданьняў 20-ых гг.

Што да пазьнейшых публікацыяў, маем яшчэ адное мала вядомае сьведчаньне. Беларуская эміграцыйная газета «Бацькаўшчына» (Мюнхэн) 15 лютага 1948 г. № 4(7) зьмясьціла артыкул Міколы Сільвановіча, ініцыятара Замежнага Саюзу Беларускіх Філятэлістаў. Артыкул меў назву «Зьбірайма й мы!», і ў ім сп. Сільвановіч, у прыватнасьці, спасылаючыся на швейцарскі каталёг Пуштайма 1947 года, першым беларускім паштовым выпускам назваў датаваны 1919 годам беларускі наддрук на марках царскай Расеі — сэрыя з 9-ці штук (?!). Адлік нацыянальнай традыцыі выданьня марак з наддруку ня ёсьць прэцэдэнтам для сусьветнай філятэліі, узяць хоць бы падобны досьвед Украінскай Народнай Рэспублікі. Але сучасныя дасьледчыкі беларускай маркі пра гэтую сэрыю яшчэ ня агадвалі. Другім выпускам М. Сільвановіч назваў сэрыю зь 5-ці марак «Асобны атрад БНР» генерала С. Булак-Балаховіча і трэцім — сэрыю, якой мы непасрэдна цікавімся ў гэтым артыкуле,— тры маркі сэрыі «Беларусь. Почта»: «Трэйцяе выданьне ў колькасьці трох паштовых марак зьявілася ў 1922—1923 гадох у Коўні, выданае Эміграцыйным Урадам Беларускае Народнае Рэспублікі. У чужынцаў гэтае выданьне не карысталася ўвагаю, але для нас, Беларусаў, яно дарагое, і наш Замежны Саюз Філятэлістых у Нямеччыне плаціць за кожную серыю арыгіналу 40 марак».

Як бачым, ва ўсіх прыведзеных вышэй каталёгах і апісаньнях фігуравала тая самая сэрыя з трох марак беларускай пошты, а менавіта, маркі «Беларусь. Почта», выдадзеныя нібыта эміграцыйным беларускім урадам у 1921 г. (паводле вэрсіі Сільвановіча ў 1922—1923 гг.) у Коўні. Зазначым, што на саміх марках «Беларусь. Почта» аніякае згадкі пра выдаўцоў няма. Не захавалася і штэмпеляваных марак гэтай серыі (магчыма, іх і не было, апроч падробак, бо гэтыя маркі не маглі прызначацца для рэальнага паштовага абарачэньня). Чаму ж тады на марках стаіць слова «Почта»? Чаму яны былі аб'яўленыя ў Коўні па-за законам? Чаму намінал марак быў пададзены ў рублях? З якой мэтай яны былі выдадзеныя і кім?

Пытаньняў шмат, мяркуем, на частку іх могуць адказаць архіўныя дакумэнты, знойдзеныя намі ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры і мастацтва, якія мы і прыводзім зь некаторымі сваімі тлумачэньнямі.

У 1921 годзе ў Коўні досыць актыўна пачало дзейнічаць Беларускае таварыства Чырвонага Крыжу. У ягоны склад уваходзілі амаль усе тыя асобы, што складалі і Урад БНР: Язэп Варонка, Вацлаў Ластоўскі, Аляксандр Галавінскі, А. Вальковіч, Аляксандр Цьвікевіч ды інш. Паводле Статуту, дарэчы, зацьверджанага афіцыйна Урадам БНР толькі 19 травеня 1921 г., дабрачынны фонд Таварыства папаўняўся за кошт асабістых ахвяраваньняў, дзяржаўных датацый і ўласных камэрцыйных апэрацыяў, у прыватнасьці, выдавецкай дзейнасьці. У рэчышчы апошняга й нарадзілася задума выдаць маркі — своеасаблівая форма падпіскі — збору сродкаў, якая, між іншым, практыкуецца й у наш час.

З архіўных дакумэнтаў Таварыства Чырвонага Крыжу відно, што на пасяджэньні кіраўніцтва Таварыства (пратакол пасяджэньня № 3, на жаль, не датаваны, але можна меркаваць — самы канец красавіка 1921 г.) быў заслуханы даклад старшыні Язэпа Варонкі «Аб марках Чырвонага Крыжу». Пад пунктам № 2 у пратаколе была запісаная пастанова па дакладзе: «У прынцыпі прыняць. Прапанована Варонко даставіць малюнкі марак» (БДАМЛІМ, ф. 3, воп. 1, спр. 171, арк. 17). Далей знаходзім асобныя фінансавыя дакументы, у якіх згадваюцца маркі й значкі, а тамсама згадваецца існаваньне «падсобнай кнігі» па марках й значках (таксама, арк. 35), у якой, відаць, вёўся асноўны ўлік прыходу-расходу і складзены большменш адпаведна правілам уліку каштарыс дзейнасьці Таварыства за красавік 1921 г. Увогуле, з тых дакументаў, якія захаваліся, можна меркаваць, што бухгалтэрыя Таварыства вялася неахайна і малапрафэсыйна.

Падаем тую частку каштарысу, у якой фіксуюцца апэрацыі з маркамі й значкамі: кантрол. ...сума

| | | |
|---|---|---|
| 7. Запл. за 1000 значкаў 100 | | |
| « « маркі | 500 | 600 |
| 8. Баку у лік доўгу | | 100 |
| 9. Зроблена марак розн. варт. | | 10.000 |
| 10. « значк. « « | | 5.000 |
| 11. Продана значк. на | | 700 |
| 12. В.Б.Н.К узяў марак на кам. | | 1.500 |
| 13. Атрымана ад В.Б.Н.К за м. | | 400 |
| 14. Спісываецца з перах. с на розн. паст. за знач. | 700 | |
| « маркі | 400 | 1.100 |

.....

(ф. 3, воп. 1, спр. 171, арк. 27 адв.— 28)

З каштарысу не зразумела, у якой валюце (нямецкіх марках, польскіх залатоўках, царскіх рублях ці летувіскіх аўксінях) вёўся разьлік. Увогуле, фінансавыя дакумэнты Таварыства фіксавалі фінансавыя апэрацыі ва ўсіх валютах, бо ўсе яны былі прывязаны да найбольш стабільнай валюты — нямецкай маркі — і былі рэальным плацёжным сродкам у тагачаснай Летуве (у той жа Коўні з 1919 па 1920 гг. друкарняю Бака і Манкеса было выдадзена нямала кніг і брашур беларускіх нацыянальных дзеячоў, і на ўсіх іх быў азначаны кошт і ў марках, і ў рублях, і ў залатоўках). Але паколькі з каштарысу вынікае, што Беларускі нацыянальны камітэт (існаваў у Вільні, Польшча) узяў нейкую частку марак на камісію і частку грошай заплаціў адразу (сума 400 па пункце 13 прыведзенага каштарысу зафіксавана і па дэбету Касы), дык можна зь вялікай доляй верагоднасьці меркаваць, што ўзаемаразьлік за маркі й значкі вёўся ў нямецкіх марках ці ў залатоўках (тагачасны курс маркі да залатоўкі складаў 1нм=10зл). З каштарысу відаць таксама, што выдаўцы дыферэнцавалі словы «маркі» й «значкі» (параўн., па-польску «znaczki» значыць «маркі»). Відавочна таксама, што Я. Варонку было прапанавана даставіць малюнкі не марак-грашовай адзінкі, што было б міжнародным крыміналам і наўрад ці было праведзена па бухгальтарскіх збораў. Дзявяты пункт каштарысу адназначна сцьвярджае, што былі зробленыя маркі litaрознай, а не адной вартасьці. Пры гэтым зусім натуральна, што намінал, пазначаны на марках, ніякім чынам не адбіваецца на сабекошце прадукцыі, таму ў кантрольнай суме за 1000 адзінак пазначана прывязаная да сабекошту лічба 500 (пункт 7). Узьнікае, праўда, пытаньне, чаму было выпушчана так мала марак, усяго толькі на 10 тыс. грашовай адзінкі — гэта значыць усіх варыянтаў (невядома колькі іх было) разам прыкладна 20 тысяч адзінак. Зрэшты, выпуск маглі і паўтарыць. Да таго ж, арыгінальныя маркі сэрыі «Беларусь. Почта», а на нашу думку, гэта яны й былі, сустракаюцца досыць рэдка ў параўнаньні хоць бы з тым жа выпускам «Асобны Атрад Б.Н.Р.». Але паспрабуем адказаць на пытаньне, чаму мы лічым, што сэрыю марак «Беларусь. Почта» выпусьціла менавіта Таварыства Чырвонага Крыжу і чаму на гэтых марках фігуруе слова «Почта». З прыведзенага каштарысу ды некаторых іншых дакумэнтаў (ф. 3, воп. 1, спр. 171, арк. 30) Таварыства адназначна вынікае, што нейкія розныя варыянты марак ня толькі былі выпушчаныя ў 1921 годзе ў Коўні, але й патрапілі ў рэалізацыю. Было б прынамсі дзіўна, калі б аніводная з дваццацітысячнага (мажліва) накладу марка па нейкай фантастычнай выпадковасьці ня трапіла да вядомых тагачасных філятэлістаў ці іншых арганізацыяў. Ня менш дзіўна было б, калі б у маленькай Коўні аднагачасова хадзілі аж дзьве розныя сэрыі беларускіх марак, выпушчаныя да таго ж тымі самымі асобамі, толькі што з розных арганізацыяў: Ураду БНР ды фармальна й фактычна яму падначаленага Таварыства Чырвонага Крыжу. Нарэшце, варта зьвярнуць увагу на фармулёўку ў пратаколе: «прапанавана Варонко даставіць малюнкі марак». Значыць, на момант дакладу малюнкі марак ужо былі гатовыя і Язэпу Варонку было даручана даставіць, а не падрыхтаваць малюнкі. Хутчэй за ўсё макеты марак як знакаў паштовых збораў Беларускай Народнай Рэспублікі (картка Беларусі) былі зробленыя яшчэ ў 1918 годзе, калі старшынём Народнага Сакратарыяту (ураду) БНР быў Язэп Варонка, тым больш што толькі ў гэтым урадзе быў міністар пошты і тэлеграфу (гэтую вэрсію выказваў і Гай Пікарда ў газэце «Беларус», № 368, сакавік 1990 г., Ню-Ёрк). Але ў 1918 г. маркі ня выйшлі. Найбольш верагодна, што ўвесь гэты час макеты марак захоўваліся ў архівах БНР альбо ў архіве Язэпа Варонкі. І толькі ў 1921 маркі былі выдрукаваныя ў арыгінальным мастацкім варыянце «Беларусь. Почта» і з рублёвым наміналам, як яны й былі падрыхтаваныя раней. Цікава, што паміж пратакольным рашэньнем даставіць маркі і аплатай паслугаў друкарні Бака за надрукаваныя маркі праходзіць літаральна некалькі дзён. Хоць ня выключана, што й каштарыс, і пратакол пасяджэньня Таварыства маглі быць аформленыя заднімі датамі. Апошнюю кропку ў таямніцы сэрыі марак «Беларусь. Почта» маглі б паставіць архівы Міністэрства сувязі Летувы, калі сапраўды гэтыя маркі былі ў 1921 г. аб'яўленыя па-за законам, а таксама архівы ковенскай друкарні А. Бака й Х. Мэнкеса, якая пачынаючы прынамсі з 1919 году стала прымала заказы на выданьне беларускай літаратуры. Зразумела, што Летувіскія ўлады й не маглі ніяк іначай, як толькі забаронай, адрэагаваць на выданьне грамадзкай арганізацыяй функцыянальна не паштовых марак з надпісам «Беларусь. Почта». Але маркі выйшлі і, як мы можам меркаваць, актыўна вывозіліся за межы Летувы, у тым ліку й дзякуючы таму, што многія сябры Таварыства Чырвонага Крыжу мелі, як сябры Ураду БНР, дыпляматычныя пашпарты. У дадатак падамо друкаваныя ўжо намі ў № 4 ад 1991 г. часопіса «Спадчына» (артыкул «Шляхі беларускай маркі») выцінкі з прыватных лістоў дзяржаўнага сакратара ўраду БНР (да 1923 г.) К. Душ-Душэўскага да прэм'ера (да 1923 г.) В. Ластоўскага. На пачатку 20-х гадоў Л. Заяц, А. Вальковіч (яны ўваходзілі й у Таварыства Чырвонага Крыжу) і некаторыя іншыя сябры Ураду БНР па даручэньні Ураду займаліся камэрцыяй і фінансавымі апэрацыямі, па выніках якіх у 1923 годзе паміж дзеячамі БНР ішлі спрэчкі й высвятленьні адносінаў. Летам 1923 г. Душ-Душэўскі пісаў Ластоўскаму: «Вельмі цёмная справа рабілася і з выпушчанай пачтовай маркай, якая дала добрую пажыву для тых-жа асоб» (маюцца на ўвазе Л. Заяц, А. Вальковіч — заўв. А. С., Ю. В.) (Ф. 3, воп. 1, пр. 241, арк. 99). У лісьце ад 25 лістапада 1923 г. ён яшчэ раз згадвае марку: «Вельмі цёмная справа, па слухах, даўшая колосально вялікі заработак гр. Вальковічу, была зроблена і з выпушчанай пачтовай маркай. Кажуць, што ён зарабіў шмат больш, чым тая сума, за якую марка была прададзена» (тамсама, арк. 44).

Зь лістоў не зусім зразумела, пра якую паштовую марку вялася гаворка. Тым больш што ніякая адзіночная беларуская паштовая марка філятэліі не вядомая. Магчыма, Душ-Душэўскі ў прыватным ліставаньні быў ня надта пунктуальны ды й ня надта дасьведчаны ў справе выданьня марак, бо ўвесь час ужывае словы «кажуць», «па слухах». Што да «вялікага заработку гр. Вальковіча» на марках (цы), дык наўрад гэта магла быць сэрыя «Асобны атрад Б.Н.Р.», бо Вальковіч ня меў непасрэднага дачыненьня да палявой пошты асобнага атрада Булака-Балаховіча і Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Рызе, якая паспрыяла выхаду гэтых марак. Хутчэй за ўсё зарабіць гр. А. Вальковіч мог на сувэнірна-падпісной сэрыі «Беларусь. Почта», бесперашкодна вывозячы яе дыпляматычным багажом у любыя эўрапэйскія краіны.

Пытаньне пра мастака сэрыі «Беларусь. Почта» застаецца дыскусыйным. Г. Пікарда ў згаданым намі артыкуле выказаў уласнае меркаваньне, што гравюры марак мог выканаць Ф. Рушчыц ці нейкі іншы мастак зь Вільні. На нашую думку, верагоднасьць аўтарства Рушчыца замалая з увагі на ягоную неангажаванасьць у беларускае нацыянальнае асяродзьдзе. З гэтага гледзішча на аўтараў гравюраў могуць падыходзіць Язэп Драздовіч альбо Павал Гуткоўскі. Калі постаць і творчасьць першага адносна няблага вывучаныя, дык пра Гуткоўскага ведама вельмі мала. У перыяд з 1919 да 1920 года ведамы як менскі й віленскі мастак, гравёр, афарміцель некаторых часопісаў. Гэтыя дзьве кандыдатуры асабліва пасуюць на ролю аўтараў маркі з аратым, бо абодва неаднаразова выкарыстоўвалі кампазіцыйны элемэнт — сонца з доўгімі праменямі, якія разразаюць хмары. У 20-х гадох П. Гуткоўскі жыў у Менску, у гэтым часе асабліва выявіўся ягоны талент мастака-гравёра, аўтара многіх эмблемаў і знакаў. Тады ж набыў ён імя аднаго зь піянэраў ленініяны ў выяўленчым мастацтве БССР. Зрэшты, у 30-х гг. ягоная творчая актыўнасьць зь ведамых прычынаў зьнізілася. У часе другой сусьветнай вайны П. Гуткоўскі адчыніў у Менску мастацкую краму, дзе сярод іншага прадаваў уласныя малюнкі, выявы гэрбу «Пагоня». Пасьля ўваходу ў Менск савецкіх войскаў за «Пагоню» зьняволены. Вызваліўшыся зь лягераў у 50-х гадох ізноў пасяліўся ў Менску, але ад творчасьці ўжо адыйшоў. Больш падрабязна пра творчасьць гэтых мастакоў можна прачытаць у «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 4, Мн., 1990 г., стар. 33—36, 104—112).

Загадка мастака-гравёра можа быць раскрытая і праз вывучэньне ковенскага Таварыства імя Ф. Скарыны, якое прыкладна з 1918 да 1922 года займалася выдавецкай дзейнасьцю па выпуску беларускіх паштовак, кніжак ды іншай друкаванай прадукцыі ў супрацоўніцтве, дарэчы, з друкарняй А. Бака і Х. Манкеса. Пад эгідай таварыства пабачылі сьвет і ковенскія кнігі Язэпа Варонкі. Відавочна, апошні граў вялікую ролю ў працы гэтага Таварыства. Варта адзначыць, што знакам таварыства быў такі самы партрэт Ф. Скарыны зь Бібліі, што й на марцы з сэрыі «Беларусь. Почта». Але, падкрэсьлім яшчэ раз, пакуль няма ніводнай дакументальнай ці іншай згадкі, якая б давала які-кольвек сьлед да разгадкі імя мастака марак «Беларусь. Почта».

**ЮРКА ВАСІЛЕЎСКІ,**
**АЛЕСЯ СЁМУХА,**
**г. Менск.**

*** — Друкарня А. Бака (як варыянт А. Баха) і Х. Манкес. Коўна, вул. Арэшчыхі, 5.**

## У АЛЬБОМ ФІЛЯТЭЛІСТУ



# МАРКІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ




Ідэя выданьня марак БНР нарадзілася ў канцы саракавых гадоў у Парыжы, дзе ў той час пражываў старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык і ягоныя паплечнікі Лявон Рыдлеўскі й Уладыслаў Шыманец. Пасьля заканчэньня II сусьветнай вайны Рада БНР пад кіраўніцтвам М. Абрамчыка пачала актыўную працу сярод беларускай эміграцыі. Кожная грамадзка-палітычная дзейнасьць патрабуе фінансавых сродкаў. Таму была надзея, што праз выданьне й распаўсюджваньне марак каса БНР будзе мець нейкі прыбытак.

Калі ідэя выдачы марак была зацьверджаная, адразу пачалася праца над яе ажыцьцяўленьнем. Трэба было вырашыць, хто выканае праект марак, дзе яны будуць друкавацца. Было пастаноўлена выдаць маркі ў дзьвюх сэрыях. Першая сэрыя складалася з трох марак, а менавіта: дзьве ў памяць папярэдніх Прэзідэнтаў БНР — Пётры Крычэўскага й Васіля Захаркі, трэцяя — Дом Рады БНР у Менску. Першы праект марак рабіў украінскі графік, але ягоная праца не была прынятая. Канчатковы праект, выкананы У. Шыманцом, быў прыняты зь некатор ымі папраўкамі. У другую сэрыю ўваходзілі дзьве маркі: «Пагоня» й «Беларусь» (карта). Графічнае выкананьне зрабіў У. Шыманец. Загатоўку клішэ й друкаваньне марак зрабіў скарбнік Рады БНР Віталі Кажан.

Першая сэрыя марак (Крычэўскі, Захарка й Дом) была надрукаваная й высланая ў пачатку 1950 г. ў краіны, дзе ўжо была пэўная колькасьць нашых людзей: у Англію, Бэльгію, Францыю, ЗША, Канаду, Аўстралію, Аргентыну. Разам з маркамі была высланая «Кніжачка Беларускага Эмігранта», якую падрыхтаваў і выдаў у Парыжы У. Шыманец. Праводзілася праца, каб кожны беларус, а перадусім кожны прыхільнік БНР, меў такую кніжачку, купляў маркі й уклейваў іх у яе. Акрамя таго, у спецыяльным звароце рэкамендавалася, высылаючы віншаваньні з нагоды 25 Сакавіка, наклейваць маркі БНР на канвэрты ці віншаваньні й нават на звычайныя лісты.

Усе ідэі былі добрыя, але ў жыцьцёвай практыцы аказаліся нялёгкімі для выкананьня. «Кніжачка» магла быць выкарыстаная ў лягеры ДП, дзе ўсе жылі ў адным асяродку. Але як зрабіць, напрыклад, у Аўстраліі, дзе часта сябра ад сябры жыў у адлегласьці 50 км ці больш, у пачатку 50-х гадоў, калі людзі масава пачалі пакідаць лягеры ДП у Нямеччыне, выязджалі ў розныя краіны вольнага сьвету? Таму маркі БНР адышлі на бок, а на іх месцы пачалі зьяўляцца лісты ды просьбы-звароты.

Арыгінальныя клішэ марак, а таксама пэўная колькасьць марак перахоўваецца ў скарбонках Рады БНР.

**«Полацак» ЗША**
**Віталі КАЖАН,**

# ЛЮДЗЯМ ПРЫГАСТВО



Праблема беларускай мастацкай паштоўкі доўгі час заставалася невырашальнай. Абмяркоўвалася яна ў друку час ад часу апошнія мінімум 20 гадоў. Ракурсы два: нацыянальная адметнасьць і мастацкі ўзровень. Вечнай праблемай была колькасьць паштовак, якія на працягу года выпускаліся выдавецтвамі рэспублікі. Выпускала іх адно выдавецтва «Беларусь» мінімальнай колькасьцю: адна на сьвята — 1 мая, 7 лістапада й г. д. Словам, за год выходзіла 5—6 паштовак. Параўнаем: у Латвіі ў тыя гады выдавалі каля 15. Такая была адметнасьць культурнай палітыкі Крамля ў «нацыянальных рэспубліках». А ці адбыліся зьмены ў незалежнай Беларусі? Адбыліся. Паштоўкі выдаюць некалькі выдавецтваў. Найвышэйшы сярод іх мастацкі ўзровень паштовак па-ранейшаму трымае выдавецтва «Беларусь». Сярод паштовак 1993 года, напрыклад, рэпрадукцыя сюррэалістычнай работы Міколы Селяшчука, што не было магчыма колькі гадоў таму. Нам жа хочацца зьвярнуць увагу на сэрыю з 4 паштовак, прысьвечаных каляндарным сьвятам: Раству (Калядам), Новаму году, Жаночаму дню й Вялікадню. Яркую мастацкую адметнасьць паштоўкам надаў матэрыял і тэхніка выкананьня арыгіналу — выцінанка (мастацкая выразка з паперы). Аўтар — Ніна Сокалава-Кубай, ужо дастаткова вядомая мастачка, якая шмат зрабіла для разьвіцьця мала папулярнага жанру. За апошні год у яе афармленні выцінанкай выйшаў адрыўны каляндар «Родны край», табель-каляндар «Выцінанка». Яе станковыя работы ў тэхніцы выцінанкі рэгулярна зьяўляюцца на рэспубліканскіх выстаўках апошніх гадоў творчага аб'яднання «Пагоня», таварыства народных майстроў. Ювелірная графіка, арыгінальнае кампазіцыйнае рашэньне й небанальныя ўзьнёслыя паэтычныя тэксты (напрыклад, «Дзень добры! Ад душы табе маё вітаньне!», «Сьвята вялічка — з чырвоным яечкам!») у спалучэньні з высокай паліграфічнай культурай зрабілі адзначаную сэрыю паштовак запамінальнай і адметнай. Гэты невялікі набор паштовак стаў добрым падарункам у мастакоўскім асяродзьдзі, для ганаровых гасьцей. Мне даводзілася назіраць, якое захапленьне гэтыя паштоўкі выклікалі ва ўдзельнікаў Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Інсітнае мастацтва», што адбывалася ў Менску ў канцы траўня 1994 года, сярод гасьцей якой быў вядомы мастацтвазнаўца А. Яцкоўскі — рэдактар часопіса «Польска штука людова». Аднак усіх гэтых якасьцей аказалася мала для таго, каб адзначаны набор паштовак трапіў у шырокі продаж. Кнігагандаль і «Белсаюздрук» адмовіліся іх браць па прычыне таго, што, маўляў, «шырокі» пакупнік не зразумее». Выйшаў камплект у выніку абмежаваным накладам — 8 тысяч асобнікаў. І набыць іх можна толькі ў фірменнай кнігарні выдавецтва «Беларусь» у падземным пераходзе на плошчы Перамогі й у кнігарні «Мастацтва» ў Менску. Хацелася б, каб гэта прыкрая памылка гандляроў не паўплывала на лёс высокамастацкіх паштовак і іншых сувенірных выданьняў у будучым. Камерцыйную каньюнктуру, безумоўна, трэба ўлічваць. Але й не забываць пра мастацкі ўзровень прадукцыі, зрэшты — пра элітарныя выданьні, якія вызначаюць узровень культуры гэтага жанру.

**Генрых СІБІЛА,**
**«ЛіМ».**



# ПАЛЕСКІЯ СТРАЛКІ

Сёньня мала хто ўжо ведае пра тое, што на заходнім ускрайку Пінску да 1939 года стаяла вайсковая адзінка з гучным імем «84 полк стральцоў палескіх».

Кароткія гістарычныя зьвесткі пра тое, што полк быў заарганізаваны ў пачатку чэрвеня 1920 года ў Востраве Мазавецкім як 101-ы рэзервовы. Сваё першае баявое крашчэньне ён прыняў ужо ў канцы чэрвеня на беразе ракі Друць у раёне Рагачова супраць Чырвонай





Арміі, быў разьбіты войскамі I Коннай Арміі Сямёна Будзённага й адступіў у раён Острава Мазавецкага, дзе быў рэарганізаваны. Затым полк браў удзел у баявых дзеяньнях у раёне Модліна, зь цягам часу зноў вярнуўся на тэрыторыю Беларусі, ваяваў супраць Чырвонай Арміі ў раёне Горадні й ракі Нёман. У канцы вайны полк прыкрываў перамяшчэньне войскаў у раёне Вільні, на пачатку дваццатых гадоў прыбыў у



Пінск і 9 сьнежня 1929 года атрымаў сваё апошняе імя «84 полк стральцоў палескіх».

У канцы жніўня 1939 года полк, падняты па трывозе, прыбыў у Дэложын. Баявыя дзеяньні супраць немцаў полк пачаў 2 верасьня ў раёне Мокрай на паўночным захадзе ад Чанстаховы. Сярод шараговых было шмат нашых землякоў. Пінчукі Юзаф Каліноўскі, Мікалай Палюховіч, Мойша Шлозберг і Антон Ласіцкі зь вёскі Высокае ў складзе палка бралі ўдзел у абарончай вайне. Старыя



людзі шмат чаго могуць паведаміць пра тыя часы.

У польскім войску кожная вайсковая адзінка мела сваю памятную адзнаку. Гэтыя адзнакі сьведчылі пра салдацкую салідарнасьць й супольную службу, распачатую й адбытую пад адным штандарам. Знак напамінаў пра шчыльную сувязь палка з шараговымі й афіцэрамі. Знак таксама выдаваўся з мэтай падтрымкі гонару й традыцыяў палка.



Полк, які стаяў у Пінску, меў дзьве адзнакі. Першую ён атрымаў у 1921 годзе. Адзнака памерамі 40×40 мм, у выглядзе арла, у якога ў лапах шыльдачка зь лічбай 101 і назвамі месцаў асноўных бітваў: Модлін, Ружаны, Горадня й інш. Другі знак полк атрымаў у 1935 годзе (здымак 1), на прамакутнае зьзяньне накладзены роўнаканечны прамы крыж (40,5×40,5 мм) з надпісам па-польску «84 полк стральцоў палескіх». Паміж праменямі крыжа зьмешчаны чатыры плакеткі: першая — з гэрбам Пінску, другая — з палескім краявідам (над балотам ляцяць дзікія качкі), трэцяя — зь лічбай 101 п. п., чацьвёртая — зь лічбай 84 п. п. Агульная колькасьць выдадзеных адзнак каля 5000.

У палку былі традыцыйнымі й папулярнымі стралковыя турніры. Пра гэтае сьведчыць пэўная колькасьць узнагародаў за гэтыя турніры. Першая (здымак 2) адносіцца да 1932 года й прысьвечаная пераможцу асеньняга турніру пад назвай «Дажынкі». Другая (здымак 3) з выявай Юзафа Пілсуцкага прысьвечаная пераможцу веснавога турніру (1932). Дарэчы, у 1936 годзе полк быў чэмпіёнам Польшчы па стральбе.

Да нашых часоў дайшоў яшчэ адзін цікавы срэбны нацельны жатон з надпісам па-польску «Камандзір і корпус афіцэрскі 84 п. ст. палескіх. 10.VII.38.» (здымак 4). Чаму прысьвечаны гэты жатон, прыйдзецца яшчэ высьветліць.

Акрамя ўсіх гэтых узнагародаў і знакаў, у палка былі й свае грошы. Яны мелі намінал 10, 20, 50 грошай, 1 і 2 злотых, на ўсіх быў сымбаль Палесься — чарот. Адна з такіх манэтаў прадстаўленая на здымку 5.

Аўтар будзе вельмі ўдзячны за дадатковыя зьвесткі пра гісторыю палка.

**Яўген ГУРЭЦКІ,**
**г. Пінск, тэл. 40-115.**



# ТАЯМНІЦТВА КВІТКА

КОЖНАГА — сваё захапленьне. Чалавеку, які ня мае пэўнай ідэі, няхай сабе й на мяжы з калекцыянерскай апантанасьцю, мне здаецца, жыць даволі сумна. Вось і ў мяне ёсьць сярод тых абсягаў беларусікі, што зьбіраю колькі ўжо гадоў, адзін некалькі не зусім традыцыйны від калекцыянаваньня. А маю я на ўвазе не што іншае, як захапленьне квіткамі-запрашэньнямі на літаратурныя вечарыны. Колькі іх — самых розных мерапрыемстваў — прайшло ў сталічным Доме літаратара! Цяжка й пералічыць нават дасьведчанаму ўдзельніку літаратурнага жыцьця.

А кожны запрашальнік — старонка гісторыі беларускай літаратуры. Вось, напрыклад, вечар да 85-годзьдзя Сяргея Міхайлавіча Новіка-Пяюна. Ведаючы паэта й раней, парадаваўся, што, нягледзячы на цяжкі лёс, дачакаўся паэта й раней, парадаваўся, што, нягледзячы на цяжкі лёс, дачакаўся вязень трох рэжымаў тае хвіліны, калі шанавала яго перапоўненая зала, калі ў яго гонар чыталі вершы, сьпявалі песьні. Тыя хвіліны ніколі не забуду й я. А нагадвае пра ўсё сьціплы запрашальны квіток.

Цяпер пра самое калекцыянаваньне. Асабіста я расклаў свой збор па канвэртах. Мо хто працуе з падобнай калекцыяй інакш? Хацелася б ведаць. Цікава, ці праводзіліся калі-небудзь выставы калекцыяў выключна адных квіткоў? Зразумела (ды гэтай навідавоку), што запрашальнікі маюць сваё месца ў музейных экспазіцыях, у прыватных архівах. Часам квіткі як быццам губляюцца, здаюцца невыразнымі на фоне іншых экспанатаў. А між іншым, большасьць з запрашальнікаў — унікальныя, часам наўздзіў таямнічыя старонкі гісторыі ўвогуле й гісторыі літаратурнага жыцьця ў прыватнасьці. Здараецца, што, выдадзеныя невялікімі накладамі, квіткі губляюцца, зьнікаюць бясьследна ці то проста ў агульнай макулатурнай масе, ці то проста трапляюць у сьмецьце, зьнішчаюцца агнём ці яшчэ як. Шкада... Адзінае спадзяваньне, што дбайна й рупліва памяць праз квіток захаваюць хаця б апантаныя калекцыянеры.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**г. Менск**

# ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

**У Менску «Беларускі калекцыянер» заўжды можна набыць у шапіку Таварыства Беларускай Мовы імя Францішска Скарыны: пр-т Ф. Скарыны, 20. Час працы з 11.00 па 18.00, акрамя нядзелі й панядзелка.**

**Аб'явы чытачоў па тэматыцы беларускага калекцыянаваньня друкуюцца задарма.**

# ДЗІЦЯЧЫ ФОНД ДУХОЎНАГА І ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАГА АДРАДЖЭНЬНЯ ‹САКАВІК›

Дзіцячы Фонд Духоўнага й інтэлектуальнага адраджэньня «САКАВІК» — дабрачынная грамадзкая арганізацыя, асноўная мэта якой — спрыяньне працэсу адраджэньня беларускай культуры, забесьпячэньне духоўнага й фізычнага здароўя дзяцей і юнацтва, ад якіх залежыць лёс нашага народу.

Важнай задачай мы лічым вяртаньне маладога пакаленьня да традыцыйных хрысьціянскіх і нацыянальных каштоўнасьцяў і агульначалавечых вартасьцяў, ад якіх таталітарны рэжым адлучае нас на працягу доўгіх дзесяцігодзьдзяў. Імкнемся адкрыць і паспрыяць развіцьцю юных талентаў у самых розных галінах навукі, культуры й мастацтва. Нефармальны, пазбаўлены комплексаў мінулага падыход да разгляду й вырашэньня гэтых праблемаў вызначае характар нашых дзеяньняў.

Мы зьвяртаемся да ўсіх сяброў і аднадумцаў з заклікам аб'яднаць нашыя намаганьні й дапамагчы дзецям Беларусі!

Дзіцячы Фонд Духоўнага й інтэлектуальнага адраджэньня «САКАВІК» дзейнічае ў некалькіх напрамках:

«ДАПАМОГА ДЗЕЦЯМ» — аказаньне матэрыяльнай, медычнай і сацыяльнай дапамогі сіротам, хворым і іншым патрабуючым падтрымкі дзецям; арганізацыя лячэньня, аздараўленьня, адпачынку дзяцей і падлеткаў у Беларусі й за яе межамі; набыцьцё медыкаментаў, медычнага абсталяваньня, дзіцячага харчаваньня, лекаў, вітамінаў.

«ЮНЫЯ ТАЛЕНТЫ» — пошук і падтрымка таленавітых дзяцей, арганізацыя клюбаў і навукова-культурных ініцыятываў з мэтай разьвіцьця інтэлектуальных здольнасьцяў падлеткаў, арганізацыя конкурсаў, віктарынаў, алімпіядаў, выставаў, канцэртаў, усталяваньне й разьвіцьцё культурных і агульна адукацыйных сувязяў, уключаючы абмен школьнікамі й студэнтамі Беларусі й іншых дзяржаваў; забесьпечэньне дзяцей рэлігійнай літаратурай на беларускай мове, спецыяльнай літаратурай па розных прадметах, матэрыяламі, неабходнымі для творчай працы.

З пажаданьнем посьпехаў і надзеяй на супрацоўніцтва

Марыя МІЦКЕВІЧ,
Старшыня Дзіцячага Фонду Духоўнага й інтэлектуальнага адраджэньня «САКАВІК»
220012, Беларусь, Менск, вул. Сурганава, 13а-2.
Тэл. (0172) 394480
Разліковы рахунак 700427 у АКБ «Дукат»
г. Менска, МФО 153001767.

## СЛУХАЙЦЕ ПЕРАДАЧЫ БЕЛАРУСКАЙ РЭДАКЦЫІ ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ

**Гэта інфармацыі з Польшчы й са сьвету, палітычныя й эканамічныя каментары, агляды польскай штодзённай прэсы, інтэрв'ю зь вядомымі людзьмі палітыкі, эканомікі, культуры, жыцьцё беларусаў у Польшчы.**

**Нашыя перадачы выходзяць у эфір тры разы на дзень: 8.00 на кароткіх хвалях 49,71 м (адпаведная частата 6035 кГц); 14.30 на кароткіх хвалях 41,18 м і 50,04 м (а. ч. 7285, 5995 кГц); 16.30 на кароткіх хвалях 41,99 м і 49,22 м (а. ч. 7145, 6095 кГц).**

**Нагадваем таксама, што вы можаце слухаць нашыя перадачы дзякуючы спадарожнікавай сувязі. Тэхнічныя даныя: спадарожнік ЭУТЭЛЬСАТ Ф-3, 16 градусаў усходняе даўжыні, частотнасьць 11,080 ГГа, гарызантальная палярызацыя, аўдыё 8,28 МГа. Нашыя перадачы знойдзеце на спадарожніку а 8.00 і 17.00 ды ў суботы й нядзелі дадаткова а 12.30.**

**Наш адрас: Беларуская Рэдакцыя Польскага Радыё, 00-977, Варшава, п/с 46, Польшча. Тэл. 6459366.**

## АБ'ЯВЫ

— Набуду любы матар'ял, зьвязаны зь піваваранньнем на Беларусі. 220039, Беларусь, Менск-39, п/с 209. М. Белахвосьцік.

— Шукаю, мяняю, прапаноўваю літаратуру па ўсіх галінах калекцыяваньня: баністыцы, геральдыцы, нумізматыцы, філярыстыцы, філятэліі, філякартыі, уніфармістыцы. Цікаўлюся новымі паштоўкамі Беларусі. Шукаю й прапаноўваю храналёгіі марак СССР. 314021, Украіна, Палтава, вул. Каліініна, 13-568. Маставенка Н. В.

— Набуду маркі беларускай эміграцыі. 220131, Беларусь, Менск, вул. Шырокая, 56. Алесь Гуркоў.

— Шукаю кнігі па нумізматыцы, баністыцы, грашовым абарачэньні. 212004, Беларусь, Магілёў, Віцебскі пр-т, 13-5.

— Украінскі калекцыянер у абмен на ўкраінскія філятэлістычныя матар'ялы (маркі, КПД, СГ) і ХМК СССР жадае набыць філматар'ялы Беларусі і ХМК СССР украінскай тэматыкі. 254208, Украіна, Кіеў, п/с 38. Яўтушэнка А. М.

— Дапамагу набыць паштовыя маркі для калекцыянераў, якія жывуць за межамі Беларусі. Шукаю маркі беларускай эміграцыі. 220037, Беларусь, Менск, 2 зав. Баграціёна, 17—79. Іван Русан.

— Сур'ёзны калекцыянер набудзе банкноты, манэты, аблігацыі, ордэны й мядалі Беларусі, краінаў былога СССР на абмен ці за валюту. Маю каталёгі банкнотаў «Пік» і манэтаў «Краўзэ». Гарантую адказ на ўсе сур'ёзныя прапановы. **Strzelecki Ryszard,** 26-008, **Gorno-Parcele** 34A, **woj. Kieleckie, Polska** — Польшча.

— Дапамажыце знайсьці на сьценах старадаўніх дамоў і даслаць на маё імя металёвыя знакі «Обществ взаимного страхования от огня имуществ», якія дзейнічалі ў гарадох Беларусі: Віцебск — 1897 г., Копысь — 1912 г., Лепель — 1904 г., Ворша — 1912 г., Гомель — 1886 г., Мазыр — 1912 г., Рагачоў — 1888 г., Рэчыца — 1905 г., Барысаў — 1904 г., Менск — 1883 г., Быхаў — 1914 г., Магілёў — 1886 г., Мсьціслаўль — 1913 г., Чаўсы — 1906 г., Чэрыкаў — 1906 г. Мой адрас: 335000, Украіна, Севастопаль, вул. Савецкая, 30-5, Іваноў В. А.

# «ГОДНАСЬЦЬ»— ЧАСОПІС ДЛЯ ВАС

У канцы 1992 г. ў Менску адбыўся І (Устаноўчы) Сойм Згуртаваньня Беларускае Шляхты. Статутам ЗБШ было прадугледжанае выданьне друкаванага воргану. Ім стаў часопіс «Годнасьць». У 1993 і 1994 гг. выйшла па адным нумары часопіса «Годнасьць».

Першы нумар зьмяшчаў афіцыйныя паведамленьні ЗБШ, у разьдзеле «Гісторыя стану» выступіў прафесар А. Грыцкевіч з артыкулам «Шляхта Вялікана княства Літоўскага да Люблінскай уніі 1569 г.». У «Малым гэрбоўніку Беларускай шляхты» прадстаўленыя кароткія нататкі пра роды Андрушэвічаў, Андрусевічаў і Бярновічаў. У артыкуле У. Вяроўкіна-Шэлюты распавядаецца пра шляхецкія роды Віцебскай і Магілёўскай губерняў, якія не былі зацьверджаныя ў дваранстве Расейскай імперыі ў 1839—1841 гг.

У другім нумары «Годнасьці» «Гісторыя стану» прадстаўлена артыкулам С. Рыбчонка «Менскія варштаты ў першай чвэрці XIX ст. (Нарысы з гісторыі вольнамулярскага руху на Беларусі)». У разьдзеле «Гісторыя родаў» вас зацікавіць артыкул У. Вяроўкіна-Шэлюты «Васіль Цяпінскі й род Слушкаў-Цяпінскіх у XVI ст.». У «Малым гэрбоўніку...» разглядаюцца Карыбут-Дашкевічы, Дашкевічы, Пара-Левановічы й Франкоўскія. «Беларуска-літоўскія й польскія дваране ў радаводнай кнізе Пскоўскай губерні» А. Міхайлава й А. Шумкова складаюць разьдзел «Шляхецкія сьпісы».

У абодвух нумарах вы знойдзеце рэцэнзіі, а таксама аб'явы. З 1995 г. плануецца выпускаць 4 нумары на год.

Тым, хто жадае набываць часапіс альбо мець кантакты са Згуртаваньнем Беларускае Шляхты, раім зьвярнуцца па адрасе: Беларусь, 220102, Менск-102, а/с 212.



**ЦЭНТАР КУЛЬТУРЫ ЧЫГУНАЧНІКАЎ**

**запрашае калекцыянераў усіх кірункаў у нядзелю з 8 гадзіне і ў сераду а 16 гадзіне. Наш адрас: Менск, вул. Чкалава, 7. Тэл. 25-98-93.**

◆◆◆

**БЕЛАРУСКІ САЮЗ ФІЛЯТЭЛІСТАЎ**

**запрашае калекцыянераў-філятэлістаў кожную сераду з 16.00 да 20.00. Наш адрас: Менск, вул. Даўгабродская, 24 (Палац культуры трактарнага завода), 2 паверх.**

◆◆◆

**Менскі паштамт працягвае абанементную падпіску на паштовыя маркі 1995 года выпуску.**

**Тэрмін падпіскі да 1 красавіка.**

**Падпіска праводзіцца ў круглай зале паштамта.**

**ДП «Менская пошта»**

◆◆◆

**ЦЭНТАР ТУРЫЗМУ «ВІАПОЛЬ»**

**запрашае на экскурсіі па Беларусі:**
**— неардынарныя маршруты;**
**— цікавыя сустрэчы;**
**— малавядомыя помнікі беларускага дойлідства;**
**— лягенды й паданьні.**
**Тэл.: (0172) 271201, 395260, 262650, факс 395869.**



## АДМЫСЛОВЫЯ ПАШТОВЫЯ ШТЭМПЕЛІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (1991—1992)

**24—26.10.91 г.** Менск. Гашэньне ў гонар прыняцьця 19.09.1991 г. закону аб назве БССР, сьцягу і гербу. Штэмпель зроблены ў Менску. Колер гашэньня — чорны.

**09.12.91 г.** 100 гадоў з дня нараджэньня М. Багдановіча. Штэмпель зроблены яшчэ па заказу Міністэрства сувязі БССР. Мае абрэвіятуру «СССР». Менск. Чорны. Тэкст на расейскай мове.

**20.01.92 г.** Менск. «100 гадоў з дня нараджэньня Р. Р. Шырмы». Зроблены ў Маскве. Чорны.

**20.03.92 г.** Выхад у паштовае абарачэньне першай маркі Рэспублікі Беларусь . «Крыж Ефрасінні Полацкай». Адмысловы штэмпель. «Пуршы дзень». Менск. Чорны.

**03—06.04.92 г.** Рагачоў, Гомельскай вобласьці. «850 гадоў Рагачову». Чорны.

**10.04.92 г.** Менск. Выхад у паштовае абарачэньне маркі «100 гадоў з дня нараджэньня Р. Р. Шырмы. Адмысловы штэмпель «Першы дзень» з пераводнай датай. Чорны.

**31.08.92 г.** Менск. Выхад у паштовае абарачэньне дзьвюх марак з выявай герба і сьцягу Рэспублікі Беларусь. Адмысловы штэмпель «Першы дзень». Чорны.

**25—27.09.92 г.** Менск. «1000 годдзе Беларускай праваслаўнай царквы». Чорны.

**26—27.09.92 г.** Гомель. «850 гадоў Гомелю». Чорны.





**БЕЛАРУСКІ КАЛЕКЦЫЯНЕР**
**Год заснаваньня 1990 Пасьведчаньне № 820 Рэдактар Уладзімір Цярохін. Адказны за нумар Ларыса Гедзімін**

**Пры передруку просьба спасылацца на «Беларускі калекцыянер». Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазыцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваньнямі аўтараў публікацыяў. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасьць за дакладнасць фактаў.**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**п/с 417, Менск, 220131 Беларусь—Belarus' Друкарня «Чырвоная зорка» г. Менск. Наклад 1000 асобнікаў Фармат А3 Замова № 2562.**